


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# наша СЛОВА

№ 16(26) • 5—11 ЧЭРВЕНЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



## ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ

Нядаўна ў Мінску адбыўся першы Міжнародны кангрэс беларусістаў. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі 11 краін свету: Балгарыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Германіі, Італіі, Польшчы, Чэхаслава-

Заканчэнне на 2-й стар.

## Поступ тыдня

Адмовіліся прымаць удзел у галасаванні па тых пытаннях, якія вынесены на сесію Вярхоўнага Савета рэспублікі камуністычнай большасцю, дэпутаты апазіцыі Беларускага Народнага Фронта. Згодна з іх заявай, палітычны крызіс у Беларусі павінен вырашацца правядзеннем нечарговых выбараў у рэспубліканскі парламент.

«Галасаваць у такіх умовах бессэнсоўна,— гаворыцца ў заяве.— Мы пакідаем за сабой крытыку і крытычныя прапановы — метады жорсткай апазіцыі».

* * *

Прыняць удзел у мерапрыемствах, прысвечаных пяцідзесяцігоддзю нападзення фашыстаў на СССР, запрошана дэлегацыя Беларускага камітэта абароны міру. Яе члены разам з прадстаўнікамі германскай грамадскасці абмяркуюць тэму: «Як палепшыць добрасуседства паміж СССР і Германіяй». Мяркуецца таксама прэзентацыя карціны М. Савіцкага з цыкла аб чарнобыльскай трагедыі. Мастак падарыў яе нямецкай абшчыне Святой Тройцы.

* * *

Задачы па ўвядзенню ў дзеянне Закона Беларускай ССР аб мовах на тэрыторыі раёна вынесены на абмеркаванне чарговай сесіі Цэнтральнага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска. Думаецца, патрэба ў гэтым наспела даўно. І не ў адным раёне...

* * *

Адразу на трох выставах у горадзе Мінску прадставілі свае вырабы народныя майстры рэспублікі. Для іх выдзелены залы ў Палацы мастацтваў, у акружным Доме афіцэраў і рэспубліканскім Доме настаўніка. Будзем спадзявацца, што такімі ж багатымі на рэчы, вырабленыя ўмелымі рукамі здольных умельцаў, будуць і прылаўкі нашых магазінаў.

* * *

Настаўнікаў і выкладчыкаў для будучых беларускіх школ і дзіцячых садоў Віленшчыны рыхтуюцца выпускаць у Віленскім педагагічным інстытуце. Для гэтага тут ствараецца беларускае аддзяленне факультэта славістыкі.

* * *

У самым канцы навучальнага года міністр народнай адукацыі БССР уручыў дзевятнаццаці выпускнікам школ рэспублікі дыпломы пераможцаў і лаўрэатаў рэспубліканскага конкурсу «Абітурыент-91». Уладальнікі гэтых дыпломаў маюць права быць залічанымі без экзаменаў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, Мінскі радыётэхнічны інстытут і Беларускую політэхнічную акадэмію. Конкурс — новая форма падтрымкі юных талентаў, і, думаецца, яна адразу прынята імі і іх бацькамі.

## Але!

## УСЁ Ў ПАРАДКУ?

### У газеты «7 дней» сумненняў няма

«Гражданин, давайте не будем!» Знаёмая фраза? Следам нярэдка ідзе наступная: «Пройдемте, гражданин!» Магічная сутнасць гэтай фармулёўкі, як вядома, грунтоўна апрабавана на «масах» у часы сталіншчыны. Першая гучала часцей з газетных палос, дзе грамілі і выкрывалі «ворагаў народа». Другая — звычайна ў больш інтымным асяроддзі, ноччу. Для таго, каб астатнія з «масы» працягвалі без панікі маршыраваць на свае рабочыя месцы пад гучны спеў з рэпрадуктара: «Мы будем петь и смеяться, как дети...» Кляймёнага ж «грамадзяніна» тым часам цягнулі ў «варанок». А далей, як каму шанцавала. «Гражданин Шидловский» (1913 г. нарадж., мястэчка Смілавічы на Міншчыне) гэта ўсё паспытаў на ўласнай скуры. І ў засценках «вооруженного отряда партии нового типа», і на Калыме, куды ў незабыўным 1937-м яго, курсанта Артылерыйскай школы імя Красіна ў Маскве, пасля допытаў на Лубянцы запраторылі астываць ад юнацкага пылу нацыянальнай самасвядомасці. А прасцей — за тое, што заўзята чытаў савецкія кніжкі, але ў тым ліку на беларускай мове.

А вось цяпер да старога пенсіянера (узнагароджанага, дарэчы, медалём «За доблестный труд» у вайну з гітлераўскім фашызмам) і рэабілітаванага паліткатаржаніна гэтак звяртаецца сучасны журналіст, мала таго — рэдактар «независимого» інфармацыйнага штотыднёвіка «7 дней» (глядзіце артыкул «Не будем нарушать Закон», № 20 за 13—19 мая) Анатолій Пранішнікаў. Ён жа, як сам прадстаўляе сябе, — «культуртрэгер» з Баранавіч, які з'явіўся адтуль на галаву Шыдлоўскага шляхам вучобы ў БДУ і наступнай работы ў прэсе». Гэта спадар рэдактар так адрэагаваў на роспачную заўвагу «гражданина» Шыдлоўскага (пісьмо ягонае надрукавала «Наша слова») — і адкуль толькі бяруцца на нашу галаву пранішнікавы, якія робяць камерцыю шляхам вынішчэння беларускай мовы і культуры.

Абурэнне ж В. Шыдлоўскага ўзнікла з-за таго, што яго ўвялі ў зман. Заснавальнік штотыднёвіка «7 дней» —БЕЛТА фактычна не выканаў сваіх абяцанняў падпісчыкам выдаваць частку тыражу на беларускай мове. Бо такіх, бачыце, па словах А. Пранішнікава, набралася ўсяго... «три с половиной тысячи». Дык што з імі цырымоніцца! Праўда, і ўвогуле белтаўскія журналісты, як прызнаецца А. Пранішнікаў, падпіску тую на двухмоўны варыянт аб'яўлялі, аказваецца, «не по своей воле, а по указанию ЦК той самой партии... которую сегодня шидловские во всех бедах обвиняют». Ну вось.

Паспрабуем з гэтым пасажам трохі разабрацца. Спачатку наконт «указания». Хочацца верыць, што было яно вынікам не спробы трохі аздобіць камерцыйнае выданне нацыянальным філіялам, а тым, што і ў ЦК КПБ знайшліся людзі, якім сумленне падказвала: за жахлівы стан з нацыянальнай мовай і культурай нясе поўную адказнасць кіруючая партыя. І трэба хоць цяпер старацца нейкім чынам выкупляцца за велізарны грэх перад уласным народам. Ну, а спадар Пранішнікаў лічыць, што беды беларусаў ад нячыстай сілы? Ці ад недабітых «ворагаў народа»? «Агентаў імперыялізму»? Рэдактар «независимой» газеты так сапраўды лічыць ці гэта толькі «інфармацыя» для даверлівых чытачоў ягонага выдання? Яно чамусьці настойліва імкнецца «ненавязчиво» абяліць кампартыйных чыноўнікаў і адначасова выклікаць непрыязь да кіраўнікоў незалежнага рабочага руху, да народных дэпутатаў, што дбаюць пра навучанне дзяцей на беларускай мове. Сапраўды: навошта яна, гэтая беларуская мова, журналісту, які не жадае «с протянутой рукой в общую очередь пристроиться за кусочком «суверенного» (!) пирога»? Ён жа не «архирадикальный «ЛіМ» з ягоным 19-тысячным тыражом. А вам, «граждане шидловские», чамусьці яшчэ хочацца нацыянальнага? Дык, калі ласка: «без талонов и прочих ограничений продаются «Беларуская газэта Свабода», «Навіны БНФ», другие «формальные» (?) и «неформальные» издания на государственном языке». Так яго, гэты «государственный», які ўсё яшчэ блытаецца пад нагамі ў тых, хто ўмее каваць грошы на інтэрнацыяналізме! Нічога, што ў адным нумары штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» інфармацыі аб культуры больш, чым у газеце «7 дней» за квартал. І тое дробязь, што «7 дней» выпускаецца пад крылом магутнага дзяржаўнага тэлеграфнага агенцтва, дзе засяроджана не толькі сучасная тэхніка па збору інфармацыі, але і дзякуючы разгалінаванаму прафесійнаму платнаму апарату звесткі можна хутка ўдакладняць, аднауляць, правяраць, параўноўваць па картатэках і электроннымі сродкамі, а «нефармалам» з іх аматарскімі выданнямі на «государственном языке» нават з простым тэлефонам праблема, не гаворачы пра паперу, друкаванне. Нарэшце, дах над галавой. Давайце зверым адрасы: у «7 дней» рэзідэнцыя на вуліцы Кірава, 26 і ў БЕЛТА яна самая — Кірава, 26.

«У каждого судьба своя» — іранічна заўважае «сямідзёнка», расказваючы, колькі тыражу беларускамоўных выданняў спісваецца. Ёсць там, праўда, такія-сякія недакладнасці наконт «Нашага слова», ну, ды зараз не пра гэта. А пра тое, ці сапраўды «все в порядке», як лічыць А. Пранішнікаў, з суверэнітэтам рэспублікі, калі пра яго можна вось так глумліва, як дазваляе сабе спадар рэдактар «независимой» «сямідзёнкі», у той жа час пагражаючы Законам і «рядовому пенсионеру» Шыдлоўскаму, і народнаму дэпутату Цумараву, які напомніў аб правах тых трох з паловай тысяч падпісчыкаў, што адважыліся выказаць пратэст уголас. Пратэстуеце супроць русіфікацыі? А Пранішнікаў вам цытаты з Закона аб мовах — з націскам на артыкул пяты! Каб «гражданин» Шыдлоўскі адразу сёе-тое прыпомніў з часоў свайго юнацтва. ГУЛАГ жа яму да канца дзён будзе сніцца! Вось і змоўкне. А на грамадзяніна народнага дэпутата Я. Цумарава ў дадатак, калі гены, куды нацыянальны страх уеўся, раптам не спрацуюць, можна нацкаваць самога «прэм'ер-міністра» (?). Бо народны дэпутат яго імкнецца «поставить... по стойке «смирно!» Далібог, не зразумеў, якога гэта «прэм'ер-міністра» і якім чынам «поставить», але ўсё роўна — клас!

Эрнэст ЯЛУГІН.

## ЦІ ДАПАМОЖА?



8 траўня 1991 года падпісана пагадненне паміж Саветам Міністраў Беларускай ССР і саветам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі на 1991 год у мэтах аховы сацыяльна-эканамічных правоў і законных інтарэсаў працоўных, усяго насельніцтва рэспублікі ў перыяд пераходу да рынчнай эканомікі.

Пагадненне падпісалі Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР В. Ф. Кебіч і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У. І. Ганчарык.

Фота Ю. ПАЎЛАВА. (БЕЛТА).

*Наш карэспандэнт атрымаў дазвол прысутнічаць на сесіі Вярхоўнага Савета БССР*

## ЗА ЗАМГЛЁНЫМІ ВОКНАМІ

ўпершыню апынуўся аўтар гэтага рэпартажу і ўбачыў там нямала цікавага. Найперш, я прыгледзеўся да шыбін. Той, хто лічыць, што яны браніраваныя, памыляецца. Аднак біць вокны ў Доме ўрада я не спрабаваў і высновы мае адно тэарэтычныя. Ажно ўразіла іншае. Чорныя зеўры — замглёнае шкло,— якія іншым разам назіраю з плошчы імя У. І. Леніна, выглядаюць з сярэдзіны бясконцых калідораў, аказваецца, зусім не змрочна. І нават прывабна. Эфект сучасных акуляраў-хамелеонаў: лінзы мяняюць свой колер у адпаведнасці з яркасцю святла. Калі глядзіш на двор праз замутнёныя лёгкім моракам вокны, спеліцца адчуванне суцэльнага спакою, амаль статычнасці ва ўсім, нават у руху людзей і машын. Карацей, добрыя вокны ў гэтай хаце.

Буфет мне спадабаўся менш. Каб туды зайсці, трэба праміnуць пост аховы з міліцыянераў і таварышаў у цывільным. Паказваю міліцыянеру пропуск і пашпарт. Той прыглядаецца да дакументаў. Пасля чую:

— Проходите, пожалуйста.

Цаню культурныя стасункі. Пытаюся:

— Ці часта нападаюць на народных дэпутатаў?

Мне тлумачаць, што нападаў няма. Але, здараецца, у залу пасяджэнняў трапляюць нашыя

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

кіі, Швейцарыі, ЗША, Югаславіі. На жаль, па розных прычынах на першы кангрэс не змаглі прыехаць беларусісты Індыі, Японіі, Канады, Фінляндыі, Нарвегіі і іншых краін. За мяжою жыве і працуе каля 250 беларусістаў, толькі ў Злучаных Штатах па апошніх звестках — каля сямідзесяці. На кангрэсе прысутнічалі дэлегацыі з Расіі, Латвіі, Літвы, Украіны, Таджыкістана.

На сённяшні дзень у рэспубліках налічваецца каля 200 беларусістаў. Самай шматлікай была маскоўская дэлегацыя. У Міжнародную асацыяцыю беларусістаў уступіла 340 даследчыкаў беларускай гісторыі, культуры, мовы і літаратуры. Сёння налічваецца больш за 600 членаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Адкрыў першае пленарнае пасяджэнне Міжнароднага кангрэса С. С. Шушкевіч — першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, які ў сваім выступленні сказаў: «Сёння адбываецца падзея, пра якую я не мог марыць яшчэ два гады назад, таму што не ведаў, што ў свеце паважаюць і любяць нашу знявечаную на Радзіме мову, нашу занядбаную на Радзіме культуру. Але мы дажылі да таго часу, калі агульныя чалавечыя каштоўнасці вышэй ад «класавага падыходу». З прывітальным словам выступіў прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, акадэмік У. П. Платонаў. Ён заўважыў, што, аб'яднаўшыся, нам будзе лягчэй пераадолець духоўны Чарнобыль, які народ атрымаў у спадчыну ад мінулых пакаленняў, і які па сваіх выніках не менш жахлівы, чым Чарнобыль фізічны. Беларусы спадзяюцца, што ў гэтай высакароднай справе беларусісты свету пасадзейнічаюць нам. Затым з прывітальным словам выступіў народны пісьменнік Беларусі, сябар Сойма БНФ «Адраджэнне» Васіль Быкаў. Ён падкрэсліў, што адзіная магчымая форма нацыянальнага выжывання ў сучасных савецкіх умовах — гэта набыццё дзяржаўнага суверэнітэту, поўнай культурнай самастойнасці і палітычнай незалежнасці. Без гэтага нацыя выжыць не зможа. Далей ён сказаў: «Апошняя наша надзея на бессмяротную сутнасць народа. Усё ж для чагосьці ён быў створаны Богам на гэтай блаславёнай зямлі. І мы цешым сябе думкамі, што Беларусь яшчэ неяк паслужыць на ёй. Калі не нам, дык наступным пакаленням».

З цікавасцю ўдзельнікі кангрэса слухалі выступленне міністра замежных спраў П. К. Краўчанкі. Ён адзначыў важнасць намаганняў міжнароднай грамадскасці ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы і пажадаў поспехаў у адраджэнні беларускай культуры. Пасля прагучаў цікавы даклад старшыні Англа-беларускага таварыства Джыма Дынглі «Замежны погляд на сучасную беларусістыку». У гэтым дакладзе, між іншым, была падкрэслена думка, што ацэнка ўкладу той ці іншай асобы ў сусветную і нацыянальную літаратуру не павінна звязвацца з яго палітычнымі поглядамі.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў Міжнароднага кангрэса выступіў Ніл Гілевіч, прафесар, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Увазе ўдзельнікаў першага пленарнага пасяджэння былі прапанаваны даклады доктара гістарычных навук Міхася Ткачова «Шляхам нацыянальнага адраджэння», прафесара Нью-Йоркскага універсітэта Томаса Бэрда «Беларусістыка ў Амерыцы», загадчыцы славістычнага аддзела цэнтральнай бібліятэкі Цюрыха Монікі Цуліг «Стан і перспектывы беларусістыкі ў Швейцарыі». Паведамленне «Беларусістыка на Украіне: дасягненні і перспектывы» зрабіў доктар філалагічных навук Рыгор Піўтарак. З прывітальным словам ад Патрыяршага экзарха Беларусі мітрапаліта Філарэта звярнуўся да беларусістаў пратаерэй Георгій Латушка, які падарыў сябрам аргкамітэта кангрэса экземпляры «Святога Евангелля (ад Мацвея)» на старажытнагрэчаскай, царкоўнаславянскай, рускай і беларускай мовах. Святар Ян Матусевіч расказаў пра сённяшні стан каталіцкай і уніяцкай царквы на Беларусі. Пасля гэтага з прывітаннем ад згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» да ўдзельнікаў кангрэса звярнуўся пісьменнік Яўген Лецка. Ад імя Беларускага ПЭН-цэнтра беларусістаў прывітаў прысутных паэт Рыгор Барадулін.

Пасля перапынку адбыліся пасяджэнні секцый гісторыі і культуры, мовазнаўства, літаратуры, мастацкага перакладу і фальклору. Увечары ў вялікай зале Дома літаратара адбыўся надзвычай цікавы канцэрт фальклорных калектываў Беларусі.

На наступны дзень удзельнікі кангрэса прынялі ўдзел у святе беларускага пісьменства каля помніка Максіму Багдановічу, а потым выязджалі ў Вязынку, на радзіму Янкі Купалы, і ў Мікалаеўшчыну, на радзіму Якуба Коласа.

На трэці дзень кангрэса адбыліся выбары кіруючых органаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, адбыўся «круглы стол» «Беларуская дыяспара», працягвалася работа секцый. На заканчэнне кангрэса на другім пленарным пасяджэнні са справаздачамі выступілі кіраўнікі секцый.

**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Інтэрв'ю на актуальную тэму*

# ПАПА РЫМСКІ РАЗМАЎЛЯЎ З БЕЛАРУСКІМІ ДЗЕЦЬМІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Чарнобыльскія дзеці... Іх лёс асабліва трывожыць сёння нас, дарослых. Для гэтага ёсць усе падставы. 615 тысяч дзяцей усё яшчэ заложнікі «зоны» — жывуць у забруджаных раёнах. 30 тысяч з іх знаходзяцца там, дзе радыяцыя сур'ёзна пагражае ўсяму жывому. Адсюль высокая статыстыка захворванняў. Кожнае трэцяе дзіця «зоны» сёння хварэе, 137 тысяч на дыспансерным уліку...

Як адвесці ад дзяцей бяду, чым дапамагчы? Пра гэта трэба не толькі думаць, але і нешта рабіць канкрэтнае. І ўжо робіцца. Скажам, на днях вярнулася з далёкай Італіі група нараўлянскіх дзяцей. Цэлы месяц лячыліся яны і адпачывалі там. Арганізаваў гэту паездку Беларускі Народны Фронт і Ліга жанчын Беларусі. «Уражанняў мы прывезлі з Італіі шмат, пра ўсё і не раскажаш у невялікім інтэрв'ю»,— сказала ў самым пачатку нашай размовы прадстаўнік жаночай грамадскай арганізацыі Таццяна Іванаўна Гурэцкая.— Гэта казачная краіна, сапраўдны музей пад адкрытым небам. У нас быў экскурсавод. Сказанае ім на беларускую мову перакладаў кіраўнік групы мастацтвазнаўца Валерый Яўгенавіч Буйвал.

КАР.: Праграма паездкі была вельмі разнастайная. Гэта паказалі першыя вашы сустрэчы на зямлі Італіі. А ўвогуле як быў арганізаваны быт, лячэнне нараўлянскіх дзяцей?

Г. Т.: Арганізатары аздараўленчай акцыі ўсё зрабілі, каб дзеці добра адпачылі, не адчувалі дыскамфорту. Не буду спыняцца на аздараўленчай праграме, якая ажыццяўлялася пад назіраннем кваліфікаваных урачоў, спецыялістаў. Гэта патрабуе асобнай размовы. Хочацца адзначыць толькі, што чыстае паветра, вітаміны, медыцынскія працэдуры зрабілі цуд. Анемічныя, хворыя нашы дзеці мяняліся на вачах! Вось бы такія ўмовы ды на радзіме, не было б той трывогі ў нас зараз пра тых, хто не меў і можа не будзе мець такой магчымасці адпачыць, падлячыцца. А такіх дзяцей у нас, на жаль, тысячы...

Можна бясконца расказваць, як сустракалі нас у гэтай краіне, як шчыра імкнуліся дапамагчы, падтрымаць. Гэта запомніцца на ўсё жыццё. Але ёсць сустрэчы, пра якія і марыць нікому не даводзілася. Беларускую нашу дэпутацыю ўдастоіў аўдыенцыі папа рымскі Ян Павел II. Прысутнічалі і прадстаўнікі іншых краін, народаў. Калі пачалася аўдыенцыя, кожную дэлегацыю называлі: адкуль яна, з якой краіны. Людзі пры гэтым уставалі, віталі прысутных. У той жа час хтосьці маліўся, спяваў. І калі назвалі, нарэшце, нашу дэлегацыю, мы ўсталі, павіталіся з залай, а папа рымскі Ян Павел II звярнуўся да нашых гаротных нараўлянскіх дзяцей на іх роднай беларускай мове. Для нас гэта быў, напэўна, самы хвалюючы момант за ўвесь час паездкі ў Італію. Яго праасвяшчэнства гаварыў на зразумелай нам з дзяцінства мове пра наша гора, пра чарнобыльскія пакуты, пра тое, што трэба зараз усім народам свету дбаць пра ахвяр Чарнобыля, ратаваць іх. Прамова была такая пранікнёная, такая чалавечная, што я не магла ўстрымацца ад слёз.

КАР.: Прыемна, канечне, усведамляць, што нават такі чалавек, як папа рымскі Ян Павел II, ведае не толькі наша жыццё, нашу чарнобыльскую бяду, але і нашу мову і культуру. Калі працягваць і далей размову на гэтую тэму, трэба адзначыць наступнае. Наколькі мне вядома, дзіцячая беларуская дэпутацыя і сама зрабіла ў час паездкі нямала, каб як мага больш людзей пазнаёміліся з беларускай мовай і нацыянальнай культурай. З гэтай мэтай у вас была распрацавана нават спецыяльная мастацкая праграма...

Г. Т.: Я па спецыяльнасці педагог, маю музычную адукацыю, а таму гэтая частка праграмы ішла праз мяне. Таму не буду яе ацэньваць. Праграму пабачылі ў Італіі шматлікія гледачы, і за імі, як кажуць, апошняе слова. Хочацца прывесці толькі адзін эпізод. У штаб-кватэры Мальтыйскага Ордэна нас прымаў сам яго прэзідэнт, і ў час візіту мы вырашылі выканаць для прысутных нашу любімую беларускую народную песню «Саўка ды Грышка». Тое, што было потым, цяжка перадаць. Людзі дзякавалі нам, прасілі дзяцей выканаць яшчэ што-небудзь з беларускіх народных песень. Яны паўтаралі нязвыклыя для іх беларускія словы, усё пыталіся, як будзе па-беларуску тое, гэта... А вы б бачылі, як задаволены былі нашы дзеці! Яны адчувалі сябе прадстаўнікамі народа, у якога ёсць свая цудоўная мова, свая непаўторная культура, свая гісторыя...

Я зараз упэўнена, што трэба не толькі дбаць, як кажуць, пра цела, але і заўсёды думаць пра душу. Нашы дзеці не толькі фізічна сталі мацнейшымі, яны, думаю, узбагаціліся і духоўна.

Распытваў
**Уладзімір МАРТЫНАЎ.**

*З рэдакцыйнай пошты*

# БЕЗ БЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫКІ НАРОДУ НЕ ВЫЖЫЦЬ!

**Добры дзень, паважаныя! Мне вельмі прыемна чытаць Вашу газету. І вялікі дзякуй, што стварылі яе. Але каб я быў поўнасцю ёй задаволены, то я не пісаў бы Вам гэтае пісьмо. А справа ў тым, што ў «Нашым слове» няма палітыкі, усё больш просьб, каб хутчэй людзі размаўлялі на роднай мове і прызналі яе, і шмат спачуванняў забытай беларускай мове. Але каб мае пажаданні здзейсніліся і Вашы таксама, то неабходна ўключыцца ў палітыку і перамагчы ў гэтай барацьбе.**

**Трэба ж гэта бачыць і чуць, як народныя абраннікі размаўляюць на чужой для нас мове. Дзе гэта ёсць яшчэ? І што за дэпутат ад народа, які не ведае мовы яго, нават не жадае яе вывучаць, а прапагандуе чужую, як больш дасканалую ў вучоным жыцці і г. д.**

**Мая мара бачыць палітычных спадароў на Беларусі беларусамі ў поўным сэнсе гэтага слова, а не манкуртамі.**

**Васіль ЯКУНІН,**
**г. Слуцк.**

# Патрабуецца грунтоўнасць

Я ўважліва сачу за дыскусіяй, якая ідзе на старонках газеты («Тарашкевіца», «Наркомаўка», «Скарыніца»?), аб нашай мове.

З гэтым пытаннем я сустрэўся практычна, рыхтуючы да друку сваю кніжачку аб нетрах і карысных выкапнях Беларусі. Мой настаўнік, сааўтар першага руска-беларускага слоўніка акадэмік Г. І. Гарэцкі, заўжды гаварыў і пісаў: «радовішча», «зледзяненне», «пескавік», «чацвярцёвы» і г. д. Аднак такія словы ў выдавецтве «Народная асвета» «не праходзяць». Спасылаючыся на традыцыю, мне прапануюць: «месцанараджэнне», «абледзяненне», «пясчанік», «чацвярцічны» і г. д. Так гэтыя словы напісаны ў Энцыклапедыі прыроды Беларусі.

Дык дзе ж праўда? Як пісаць і гаварыць па-беларуску? Зараз (тэмплан на 1993 г.) рэдакцыя БелСЭ рыхтуе Тэрміналагічны слоўнік па геаграфіі. А хто яго аўтары? Я не чуў, каб хто-небудзь з маіх калег-геолагаў ці географаў меў дачыненне да гэтага выдання. Хоць і пакрысе, але выдаюцца, пачынаюць выдавацца кнігі, падручнікі па геалогіі і геаграфіі на роднай мове. Што ж пісаць у іх: «абледзяненне» ці «зледзяненне»?

Упэўнены, наспеў час стварыць тэрміналагічныя камісіі з удзелам аўтарытэтных спецыялістаў, каб рыхтаваць слоўнікі, іншыя даведачныя выданні, якія не трэба было б у хуткім часе перарабляць.

**Б. М. ГУРСКІ**, прафесар, загадчык кафедры фізічнай геаграфіі МДПІ імя Горкага, сябра рады ТБМ інстытута.

*У суполках ТБМ*

# Баранавіцкая гарадская рада ТБМ лічыць,

што ў адраджэнні нашай роднай мовы павінна сваю ролю адыграць газета «Наша слова». Таму на сваім пасяджэнні мы выказалі меркаванні аб ёй, якія ў скарочаным выглядзе Вам дасылаем.

На наш погляд, «Наша слова» зараз у пэўнай ступені дапамагае нацыянальнаму адраджэнню. Гэтаму садзейнічае шэраг матэрыялаў, якія змяшчаюцца ў газеце. Да іх варта аднесці вернутыя нашай паэтычнай спадчыне творы Л. Геніюш, Н. Арсеньевай і інш., якія вельмі сугучныя сённяшняму дню: звесткі аб дзейнасці Рэспубліканскай Рады і рэгіянальных аддзяленняў ТБМ; інфармацыі пра новыя цікавыя выданні як сучасных аўтараў, так і з літаратурнай спадчыны; звесткі аб жыцці беларусаў за межамі рэспублікі; матэрыялы на рэлігійныя тэмы; лякарню спадара Алеся; змястоўныя артыкулы пра Я. Карскага і Льва Сапегу.

У той жа час бывае, што ў «Нашым слове» змяшчаюцца матэрыялы, якія не нясуць у сабе ні выхаваўчай, ні пазнавальнай функцыі. Шмат бывае лістоў, у якіх толькі нараканні на гаротны стан роднай мовы. Здаецца, даўно ўжо пара перастаць наракаць і рабіць практычныя высілкі ў гэтым кірунку.

Для таго, каб падняць газету на новы, значна лепшы ўзровень (і тым самым павялічыць колькасць падпісчыкаў), на наш погляд, патрэбна:

— Змяшчаць у газеце фальклорныя матэрыялы (яны ў нас вельмі багатыя). Гэта можна было б рабіць тэматычна.

— Адкрыць асобныя рубрыкі, напрыклад: а) *«Культура мовы»*, дзе б распавядалася, калі і якія словы павінны ўжывацца, якая павінна быць пабудова сказа паводле беларускага сінтаксісу і інш.

Тут жа павінен давацца крытычны аналіз з пункту гледжання культуры мовы нашых радыё- і тэлеперадач, друкаваных выданняў (газет, часопісаў, кніг); аналіз маўлення журналістаў, дыктараў, дзяржаўных дзеячаў; б) *«З гісторыі роднай мовы»* — аб тым, як узнікла, фарміравалася, развівалася і засмечвалася наша мова; в) *«Дыскусійная трыбуна»*. У прыватнасці, зараз наспеў час адкрыць дыскусію аб рэформе правапісу, а пазней, магчыма, і аб ужыванні кірыліцы і лацінкі.

— Таксама пажадана ў газеце даваць часцей тлумачэнні беларускіх тапонімаў, імёнаў і прозвішчаў.

— Калі-нікалі чытачам было б цікава прачытаць аб паходжанні запазычаных слоў.

— Паўстаронкі ці старонку (1 раз на 2 ці 3 нумары) выдзяляць на матэрыялы для выхавальнікаў дзіцячых садкоў. Ім, відаць, у найбольшай ступені не хапае сёння беларускага матэрыялу для практычнай дзейнасці. Тым самым павялічыцца і колькасць падпісчыкаў.

— Пажадана, каб на старонках газеты з'яўляліся больш канкрэтныя матэрыялы аб вопыце і формах работы арганізацый ТБМ.

Выпуск газеты штотыдзень нас больш задавальняе, чым адзін раз на месяц.

Тэкст ліста зацверджаны на пасяджэнні Баранавіцкай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны 24 красавіка 1991 г. Пратакол № 4.

**Намеснік старшыні Рады Міхась КАДЫКА.**

## Шостага чэрвеня спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння польскай пісьменніцы Элізы Ажэшка (1841—1910)

*Яе жыццё цесна звязана з Беларуссю: нарадзілася на Гродзеншчыне; у час паўстання 1863—64 гадоў была партызанскай сувязной на тэрыторыі Беларускага Палесся; з 1870 года жыла ў Гродне, дзе і памерла.*

*У сваіх рэалістычных аповесцях «Нізіны», «Дзюрдзі», «Хам», апавяданнях «Рэха», «Тадэвуш», «У зімовы вечар» і іншых пісьменніца раскрыла лепшыя рысы беларускага нацыянальнага характару, паказала цяжкую долю нашага народа. Фальклору беларусаў яна прысвяціла нарысы, сабраныя ў кнігу «Людзі і кветкі на берагах Нёмана».*

*Эліза Ажэшка цікавілася беларускай літаратурай, была блізка знаёмая з Францішкам Багушэвічам і высока цаніла яго творчасць. «Прыгожы гэта талент»,— пісала яна ў адным з лістоў фалькларысту Яну Карловічу. Класік беларускай нацыянальнай літаратуры прысвяціў пісьменніцы верш, які мы і друкуем з нагоды яе юбілею.*

*Францішак БАГУШЭВІЧ.*

### Яснавяльможнай пані Арэшчысе

Гдзе ж нам парывацца —
З мудрымі раўняцца:
Чэсць аддаць аўторцы
У простай гаворцы.
Не, не чэсць, то мала —
Славу сваім трудам
Сама ты з'яднала...
Ты з пальмай прад людам.
Шмат ксёнжак пісалі
Не аб нашым браце:
Лепш чужых пазналі,
Як у сваёй хаце;
А нас, подлых кмеці,
Міналі здалёка
І хавалі дзеці
Ад нашага вока.
А ты, пані, смела
Заглянула ў хату,
Усё зразумела
І нашаму брату
Працягнула руку
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку,
І пяром умела
Выліць смутак гэты,—
Што аж душа рвецца,
Што плачуць кабеты,
Не знаюць, гдзе дзецца.
Чым жа мы аддзячым,
Што ж мы напрыносім —
Хіба што заплачам
Ды Бога папросім:
Прымі ж нашу дзяку
У малітве, у слёзцы,
Прымі як адзнаку
Тваёй славы ў вёсцы.



На радзіме Ф. Багушэвіча ткачыхі яшчэ не пераваяліся.

Фота В. ЖЫЛІНА.

## А хто там ідзе?

24 мая ў Доме літаратара тэатр беларускай бардаўскай песні і паэзіі «Сябрына» паказаў канцэрт-спектакль, назву якому даў верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», якім і пачалася сцэнічная дзея.

Верш напісаны амаль 85 гадоў назад, а мы і сёння нясём тую ж крыўду, тыя бяду і гора, і хочацца нам людзьмі звацца. Няўжо ніякіх перамен? Ну калі не лічыць, што ў лапцях не ходзім, то і сапраўды — ніякіх. Адно што кожны год дабаўляюцца новыя беды. Галоўнай ідэяй спектакля стала нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, заклік да збаўлення ад фізічнага і духоўнага Чарнобыля.

Першая частка спектакля была цалкам палітычнага характару. У ёй прагучалі песні на словы Зянона Пазняка «На Грунвальд!», Алеся Мікалайчанкі «Як у вас з раўнавагай, таварыш Слюнькоў?» у выкананні Кастуся Герашчанкі. Асабліва горача прысутныя сустракалі Сяржука Сокалава-Воюша з яго песняй «Фронт». Новымі кампазіцыямі парадавалі Алена Ермачэнкава і Вольга Цярэшчанка. У перапынках паміж песнямі мастацкі кіраўнік Алесь Мікалайчанка чытаў вершы.

Другая частка спектакля была лірычнай. У ёй выступілі кампазітар Дзмітрый Яўтуховіч, гурт «Новае неба» пад кіраўніцтвам Касі Камоцкай, а таксама Алег Атаманаў, Эдуард Акулін, Святлана Фірагіна і Алесь Камоцкі. На працягу спектакля паказваліся каляровыя слайды. Праўда, яны не заўсёды адпавядалі тэме і настрою песень, але, па-мойму, такое несупадзенне яшчэ больш завастрала нашу трывогу і боль за будучыню Айчыны. У заключэнне гледачы разам з «Сябрынай» праспявалі «Пагоню» Максіма Багдановіча, якая стала гімнам Адраджэння. Шкада, што ў нашага Беларускага тэлебачання не ўзнікла цікавасці да спектакля. А можа, у тэлебачання былі больш важныя справы па адраджэнню беларушчыны?..

У гэтыя ж майскія дні на стадыёне «Дынама» павінен быў выступаць «Ласкавы май», але выступ перанеслі з-за дажджу. Маўляў, у такое надвор'е не збяруцца людзі. Што ж, «Ласкавы май» можа чакаць добрага надвор'я, каб зрабіць сваю справу. І дзякуй Богу, што ёсць Беларусы, якія не чакаюць ні добрага надвор'я, ні «добрага старэйшага брата», які пазбавіць нас ад бяды і гора, а змагаюцца за адраджэнне.

Віктар ШНІП.

*Старыя беларускія гімназіі*

# СВЯТЛО РАДЗІМЫ

Пара майго дзяцінства і юнацтва праходзіла на прасторах родных палёў, лугоў і пералескаў. А яны былі чыстыя, светлыя. Тады ніхто не ўяўляў, што наша зямля, паветра і рэчкі могуць забруджвацца самім чалавекам. Іначай кажучы, нікому не прыходзіла ў галаву, каб чалавек сядзеў на галіне дрэва і падсякаў гэтую галіну.

І калі пілсудчыкі не давалі разгарнуцца душы, яна пратэставала, шукала выхаду, змагалася. Родная прырода заўсёды была тваім саюзнікам, дапамагала выжыць, не здрадзіць радзіме. Я, як і мае равеснікі, нічога чужога не хацеў. Жадаў толькі аднаго: каб гучала родная мова, пераліваліся срэбрам родныя песні, каб ніхто не забіраў плён нашай працы.

У галаве не ўкладвалася, як гэта можна закрыць прыватную беларускую школу і накладваць штрафы на бацькоў, якія адмаўляліся пасылаць сваіх дзяцей у польскую школу. Хіба мы не людзі, не гаспадары свайго краю і лёсу?

І таму магнітам пацягнула ў Віленскую беларускую гімназію.

Віленская беларуская гімназія і сама Вільня пашырылі мой кругагляд. У Вільні я больш пазнаёміўся і з беларускай літаратурай. Моцна ўразіла паэзія Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча. Асабліва Багдановіча, такога маладога, таямніча-прывабнага, як старажытная Вільня. Здавалася, што загадкавы Максім-летапісец пісаў вершы, падслухаўшы мае пачуцці. Словам, Багдановіч і Вільня сталі блізкімі і роднымі.

Што казаць, цяжка было прымусова пакідаць гімназію, да якой прыкіпеў душою за два гады вучобы, і Вільню, якую палюбіў назаўсёды.

Бывай, гімназія! Бывайце, мае сябры-равеснікі! Бывай, мой дарагі і любімы настаўнік Ігнат Сымонавіч Дварчанін! Гэта ты навучыў мяне мацней любіць Беларусь. Бывай і ты, Вільня, што дала мне гасцінны прытулак на працягу двух незабыўных гадоў!

Так у 1928 годзе закончылася наша камсамольская барацьба супраць паланізацыі беларускай гімназіі. А вучыцца хацелася, хацелася спазнаваць слаўную нацыянальную гісторыю, узбагачацца ведамі па роднай літаратуры, якая карысталася вялікай папулярнасцю ў Заходняй Беларусі. І я адзін з першых выгнанцаў (а іх было каля сотні) кінуўся ў Клецк, дзе таксама існавала беларуская гімназія.

Вось у калядныя канікулы бацька запрог у сані каня, завёз мяне на Слонімскую чыгуначную станцыю і пасадзіў у поезд. Марознай, завірушнай ноччу ў Ляхавічах я выйшаў з вагона, трымаючы ў руках традыцыйны падарожны сундучок вясковага вучня. Стаю ашаломлены і думаю: што рабіць, куды ісці? Пачаў разглядацца праз снежнае завіхрэнне і ўбачыў непадалёку адзіную фурманку. На шчасце, гэта балагол чакаў пасажыраў. Ледзь жывы ад холаду даехаў я да месца. Добра, што фурман згадзіўся давесці мяне ў інтэрнат на вуліцы Слабадской 28.

Так з зімовага пекла я трапіў у добра напаленае памяшканне. І адразу стаў героем дня як выгнаннік з Вільні. Мяне акружылі хлопцы, наперабой распытвалі пра віленскія падзеі. Напаілі чаем, і мы пайшлі ў школу на калядную ёлку.

Багата прыбраная лясная прыгажуня стаяла пасярод класа. Цяжка выказаць, апісаць тыя пачуцці (радасныя, усхваляваныя), якія давялося перажыць. Словам, я трапіў у надзвычай добразычлівае акружэнне сялянскай беларускай моладзі і настаўнікаў. Усё гэта напамінала добра зладжаную вясковую сям'ю. І таму ўсе перажытыя непрыемнасці вылецелі з галавы.

А самае прыемнае і нечаканае чакала наперадзе — самадзейны канцэрт. Ён пачаўся выступленнем вучнёўскага хору пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Антона Міхайлавіча Валынчыка. Хай даруюць нашы музычныя дзеячы, але мушу зазначыць, што такога канцэрта, пра які ідзе гутарка, не чуў да сённяшняга дня. Песні на словы беларускіх паэтаў не адпускалі ўвагу слухачоў ні на хвіліну сваёй меладычнасцю, зместам і цудоўным, зладжаным выкананнем шматгалосага хору.

Свайго земляка кампазітара і дырыжора Антона Міхайлавіча з вёскі Мялькaнавічы, пра якога ніколі не чуў, упершыню сустрэў на школьнай ёлцы. Амаль увесь канцэрт складаўся з яго твораў. Запомніліся песні «Зайшло сонейка», «А зязюлька кукавала» на словы Янкі Купалы, «Ліпы старыя» на словы Якуба Коласа, «Я люблю густыя шумы» на словы Уладзіміра Жылкі. Для мяне гэты рэпертуар выпраменьваў святло Радзімы, быў нечаканасцю таго, што ўшчэнт пабівала выказванне нашых нядобразычліўцаў аб «хамскай» мове.

Анатоль ІВЕРС

## Янку Брылю — М. Макулік

*ДАРАГІ ІВАН АНТОНАВІЧ!*

*Вельмі добрую справу Вы робіце на старонках «Нашага слова». Горача падтрымліваю Вашу думку аб адлюстраванні дзейнасці беларускіх гімназій. З вялікай прыемнасцю прачытаю артыкулы аб іх вельмі цяжкай і карыснай дзейнасці на ніве асветы ў тыя цяжкія часы.*

*Па Віленскай гімназіі, мабыць, знойдзеце каго, каб напісаў, ну і па Навагрудскай. Па Клецкай — мой. Дарэчы, я яго браў з надзейных крыніц. А вось з Радашковічамі, мабыць, трэба звязацца з Шыдлоўскім (я яго адраса не маю), і яшчэ там вучыўся з Казлоўшчыны Вацлаў Юльянавіч Баярчук. Ён ужо стары (84), пакалечаны, але розум ясны і памяць добрая. У яго яшчэ зберагліся дакументы з таго часу — ведамасць аб вучобе, даведка аб выключэнні.*

*Набыў сабе беларускі каляндар 1991 г. Вельмі цікавы. Ён будзе спрыяць умацаванню нашай роднай мовы і культуры. Асабліва цікавыя матэрыялы аб Максіму Багдановічу. У навагодняй «Звяздзе» мне запамятаўся яго верш, які да глыбіні душы закранае пачуцці, асабліва ў цяперашні час. Прыводжу яго канцоўку:*

*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя,—*
*папутнікі сярод нябёс.*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім*
*Да зор?*

*Іван Антонавіч! Жадаю Вам, а таксама чытачам і супрацоўнікам «Нашага слова» плённай працы на карысць адраджэння нашай мовы і культуры.*

*З павагай*
*М. МАКУЛІК.*

# ДАЛУЧЭННЕ

Гэта і сапраўды, на вялікі жаль, пакуль яшчэ нязвыкла нават для саміх нас, дарослых. І дзіўна. І радасна. Вось яны, маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі, маленькія беларусы, якія паступова, крок за крокам, пачынаюць адчуваць, усведамляць сябе беларусамі. Іх 25 у малодшай групе дзіцячага садка № 19 г. Светлагорска. Навучанне — на роднай мове. І таму, ведаючы, што ўсе школы і садкі горада, за выключэннем асобных класаў, рускамоўныя, немагчыма раўнадушна слухаць і бачыць, як дзеткі гэтыя старанна размаўляюць на беларускай мове пад ласкавай увагай і з клапатлівай дапамогай іх выхавальніц Лідзіі Цімафееўны Пасканнай і Тамары Іванаўны Стрэльчанкі.

Якое замілаванне выклікае такая сітуацыя: выхавальніца паказвае дзецям прадмет і просіць назваць яго. Устае адзін з хлопчыкаў. «Блюдечко»,— кажа ён.— «Якое блюдзечка,— загаманілі астатнія,— гэта ж сподачак». Тое ж самае здарылася і са словам «пеўнік», якога па звычцы дзяўчынка назвала «петушком». Дзеці так разгуляюцца, што папраўляюць іншы раз таварышаў нават пасля заняткаў. Яны добра адчуваюць мілагучнасць і хараство беларускай мовы, асабліва, калі абуджаецца цікавасць да яе. І гэта, як зазначае Лідзія Цімафееўна, важна ў свой час скарыстаць. «Дарослага чалавека можна навучыць мове,— кажа яна.— А любіць жа не прымусіш. Зусім жа іншая справа — вось гэтыя 3—4-гадовыя дзеткі»...

А пачыналася, як і ўсё, што датычыць роднай мовы, няпроста. Лідзія Цімафееўна і Тамара Іванаўна, якіх ніхто не прымушаў пераходзіць працаваць з рускай мовы на беларускую, у верасні 1990 года, узяўшы малодшую групу дзяцей, прынялі рашэнне і аб мове навучання. Правялі бацькоўскі сход. Як таго і чакалі, не ўсе бацькі дружна падтрымалі выхавальніц. Былі скептыкі, былі і праціўнікі. А многа было і раўнадушных. Якая, маўляў, розніца — на беларускай мове ці на рускай будзе ісці навучанне. Абы з дзіцяці чалавек вырас. Аднак Лідзіі Цімафееўне ўдалося пераканаць такіх бацькоў, што менавіта дзіця і вырасце сапраўдным чалавекам, гаспадаром, калі будзе разумець, што родная зямля і родная мова ў аснове сваёй — непарыўныя. Любіць сваю зямлю, свой народ — значыць у той жа ступені любіць і сваю продкамі зберажоную мову.

Паступова заняткі пайшлі на лад. А праводзяць іх выхавальніцы, як таго патрабуе методыка, у форме гульні, прычым, часцей за ўсё, не за столікамі, а ў вольнай абстаноўцы. І дзеці менш стамляюцца, і запамінаецца лепш. Адна бяда: няма дапаможнікаў, падручнікаў, руска-беларускіх слоўнікаў. Самі для сябе выхавальніцы слоўнічкі складаюць. Сёе-тое для працы бяруць з «Вясёлкі», «Народнай асветы», з дзіцячых кніжак на роднай мове. А ў асноўным перакладаюць распрацоўкі заняткаў з рускай мовы на беларускую, хаця і самі бачаць і згаджаюцца, што гэта не самае лепшае выйсце — пераклады. Распрацоўкі тыя не адлюстроўваюць асаблівасцей, якімі так багатая наша мова.

А зрухі ў рабоце ёсць, і немалыя. Цяпер ужо дзеці з рускамоўных груп просяць пагаварыць з імі па-беларуску, калі прыходзіш да іх, замяняючы калег па працы. Ды і многія бацькі ўжо не супраць, каб іх дзеці авалодвалі роднай мовай. І дапамагаюць, чым могуць. Іншыя ж, як адзначае Лідзія Цімафееўна, хаця і не падтрымліваюць, але, дзякуй Богу, і не перашкаджаюць.

Пазіраю на маленькіх беларусаў — а душа поўніцца і радасным здзіўленнем (такія маленькія, а так у іх атрымоўваецца!), і трывогаю за іх будучыню (не спыніцца б на паўдарозе да новага жыцця), і шчыраю ўдзячнасцю, што ёсць такія, адданыя справе адраджэння беларускасці, нацыянальнай самасвядомасці людзі, як Лідзія Цімафееўна і Тамара Іванаўна.

Няхай жа іх неўтаймаванасць, іх неспакой ды мацярынскі клопат аб росце нашай беларускай культуры знаходзіць верны водгук у тых, каму жыць пасля на сваёй роднай зямлі, дбаць пра яе сапраўдны дабрабыт і аснову асноў нашых — мову.

Соф'я ШАХ.

# ЗА ЗАМГЛЁНЫМІ ВОКНАМІ

**Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.**

суайчыннікі, якім туды «не паложана». Зазвычай, самі ж дэпутаты згаданых суайчыннікаў неўпрыкметку праводзяць. А вартаўнікам з таго толькі непрыемнасці. Мінулай сесіяй на пасяджэнні апынулася нейкая цётухна. Яна ў запале ўзлезла на трыбуну і выказала свае меркаванні паводле некаторых спрэчных пытанняў. Дэпутаты нават хацелі стварыць ці то штаб, ці то камісію па разглядзе гэтага прыкрага здарэння, ажно неўзабаве ўсё аціхла.

Буфет месціцца ў абсяжнай круглай зале. У ёй стаяць доўгія сталы. На іх бутэлькі з «пэпсі» (як і ў крамах, пляшкі без наклеек), з «крушонам», з «мінералкаю», з самаварамі... Інакш кажучы, нічога экзатычнага. Ранейшым часам, кажуць, тут пракідаліся ніштаватыя рэчы: сыркі ў шакаладзе, ікра, балычкі, заморская садавінка. Зараз можна купіць гарачыя сасіскі. Бадай што, гэта самы вялікі плюс. Праўда, яшчэ нядрэнную каву могуць зварыць. З пенкаю, калі захочуць. Можна папрасіць, каб згатавалі раставаральнае кавы. Але замовіць гэтае кавы — значыць жорстка ашукацца. Афіцыянт яўна не даклалае. А можа ён сыпле норму, ды тая норма — камаровага жменя.

Акурат над буфетам «сэрца нашай рэспублікі» — сядзіць парламент. Неспакойнае гэтае «сэрца», неўтаймоўнае і... хваравітае. Здараецца, ад яго калоціць усю рэспубліку. А калі хвароба трошкі сціхае — у продыху паміж сесіямі — дык і нам невялічкая палёгка: пачынаем спадзявацца на нейкія палажэнні.

Пры ўваходах у «сэрца рэспублікі» стаяць таварышы ў цывільным. Чырвоная паска ўпоперак рукава. Позірк цвёрды і непадкупны. Я спачатку з наіву падумаў, што, гэта хлопцы з народнай дружыны. Сам калісьці студэнтам гэтакім быў. Мая памылка. Шмат ад каго ў той дзень пачуў, што, аказваецца, на адказнным пасту нясуць нялёгкую службу супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі. І кожны з іх нібыта не меншы за маёра. Каб канчаткова высветліць хто ёсць хто, я падышоў да маладога хлопца з чырвонай паскаю на рукаве, назваў сябе і прама запытаўся:

— Вы ад КДБ ці ад МУС?

— Ад МУС,— адказаў ён.

— У такім разе, хто тут ад КДБ?

— Іх няма. Раней, здаралася, дзяжурылі.

Тады я кажу:

— Давайце сабе ўявім, што ў зале пасяджэнняў дэпутаты ад спрэчак перайшлі да больш рашучых захадаў. Ну, напрыклад, пачалі адзін аднаго браць за грудкі. Самі разумееце, людзі мы ўсе апошнім часам знерваваныя, харчуемся як набяжыць, і паскардзіцца няма каму. Якія вашыя дзеянні?

Мой суразмоўнік сарамяжліва і хітравата ўсміхнуўся (усе нашыя міліцыянеры ўмеюць рабіць гэтак, калі гаворка датычыць іхніх дзеянняў ва ўмовах, максімальна набліжаных да сенсацыйных). Атрымалася выдатна. Вельмі сціпла, і разам з тым з пякучым жаданнем не хаваць праўды. Люблю беларусаў за шчырасць.

— Няхай сабе хоць пазабіваюцца,— прамовіў ён.— На гэты конт я ніякіх інструкцый не маю.

— А калі без інструкцый? На чым бы вы баку былі? Ці можа паспрабавалі б развесці тых, хто б'ецца?

— Нічога б не рабіў. У мяне няма гэтакай задачы.

Шчыра кажучы, я разумею таварыша з аховы. Я на ягоным месцы таксама не пайшоў бы ў бойку (вядома, калі б мяне ніхто не закрануў). І не суцяшаў бы: больш, як з каго, ляціць пер'е з галубоў міру.

Вядома, часам хочацца пасварыцца з народнымі дэпутатамі. Сказаць ім: любыя мае, які разумны чалавек з крызісу рэспубліку будзе так выводзіць, як вы збіраецеся! Нельга ж дрэва каранем дагары садзіць. Спачатку трэба пра сапраўдны суверэнітэт паклапаціцца. Як, прыкладам, Пазняк прапануе праз несціхотны пошум у «сэрцы рэспублікі». Нягожая электракардыяграміна атрымліваецца. Страшэнная арытмія. Зрэшты, крытыкаваць вас не мушу. Бо ці не кожны другі прамоўца намякае з трыбуны: маўляў, крытыкаваць заўсёды лёгка, таму не трэба. Вось думаю: каб узяць ды стварыць дэлегацыю з найбольш адказных таварышаў дэпутатаў, і няхай бы яны запыталіся ў сяго-таго, што ён пра Вярхоўны Савет думае. Няхай падыдуць да таго самага міліцыянера (які будзе вас суцяшаць, калі раптам вы ў рожкі схопіцеся) ці да афіцыянта ў вашым буфеце. (Можна нават звярнуцца да таго, які каву эканоміць). Вельмі цікавыя ў іх думкі наконт «сэрца». Гэтыя хлопцы здольныя шмат чаго канструктыўнага сказаць, калі з імі пагаварыць па шчырасці. Як нямала пачуеце вы і ад тых, хто часам мітынгуе насупраць замглёных вокнаў Дома ўрада.

**Л. ВАШКО.**

*Людзі кажуць*

# З НАЙМЕННЯЎ СТАЎБЦОЎШЧЫНЫ

***У рубрыцы (№ 11) мы ўжо змяшчалі паданні пра беларускія найменні. Сёння прапануем чытачам матэрыялы па тапаніміі і гідраніміі (назвах рэк, азёр і г. д.) Міншчыны, сабраныя студэнтамі Белдзяржуніверсітэта і падрыхтаваныя да друку дацэнтам Л. К. Тарасюк.***

## СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

*Мікалаеўшчына, Альбуць* — назвы вёскі і лесніцоўкі.

Было гэта даўным-даўно, калі там, дзе цяпер Мікалаеўшчына, яшчэ рос лес і стаяла хата лесніка Мікалая. У яго быў сын Якуб, а ў пана, у якога служыў Мікалай, была дачка Альбіна, вельмі прыгожая. Летам наязджаў сюды пан Буданскі на паляванне. Часта браў дачку, пакідаў у лесніка. За ёю прыглядала маці Якуба. Альбіне спадабаўся дужы і статны хлопец. Прайшоў час, і яны моцна пакахалі адзін аднаго. Якуб збудаваў з яловых галін будан, пакрыў аерам, выслаў зямлю сенам. Там тайна і сустракаліся закаханыя. Аб гэтым даведаўся пан Буданскі і вельмі раззлаваўся. Маці Якуба кінулася ў ногі пану, пачала маліць, каб памілаваў сына. Пан жа і слухаць не хацеў. І так моцна збіў жанчыну, што яна на трэці дзень сканала. У вачах пацямнела ў Якуба ад гэтай навіны. Узяўшы стрэльбу, ён кінуўся да пана, ды яго схапілі лоўчыя, пачалі вязаць. У вялікай крыўдзе дужы Якуб параскідаў панскіх прыслужнікаў. У гэты час выйшаў сам пан і Альбіна, уся заплаканая, збялелая. Буданскі больш за ўсіх на свеце любіў дачку, але вельмі не павяжаў мужыкоў. «Адпусціце! — крыкнуў ён.— Калі Якуб такі асілак, няхай з маімі сабакамі падужаецца». І нацкаваў псарню на хлапца. Ды што за цуд?! Сабакі нават з месца не скрануліся, яны вінавата паглядалі на гаспадара. Той крычаў у гневе: «Усіх пастраляю! Стража, жывым закапаць у зямлю нахабніка! Каб ведалі мужыкі: хто падыме руку на пана, таго чакае немінучая кара!» — «Татусь! Я кахаю Якуба!» — закрычала ў роспачы Альбіна.— У нас будзе сын! Я з ім навекі!». Яна кінулася да хлапца, пачала цалаваць яго. У гэты час прагрымеў стрэл. Дзяўчына пахіснулася, упала на рукі Якуба, вочы яе навекі закрыліся. Са стрэльбы Буданскага яшчэ вязуся дым, як Якуба пацягнулі да Нёмана і жывым закапалі ў зямлю, а поруч з ім пахавалі Альбіну.

Кожны дзень бацька хадзіў на магілу сына, паліваў яе слязьмі. Неўзабаве там вырас дубок. А калі дрэва распусцілася, лесніка Мікалая знайшлі мёртвым. Людзі пахавалі яго побач з лесніцоўкай на самым высокім месцы, на пясчаным беразе Нёмана.

Ад Мікалая — Мікалаеўшчына. Ад Альбіны — Альбуць (была Альбіна). Высокі Бераг — высокае месца, пясчаны бераг Нёмана, на якім пахавалі Мікалая.

Запісала Тацццяна БЕЛАЯ ад свайго бацькі Сымона Міхайлавіча Белага ў вёсцы Мікалаеўшчына.

(Працяг будзе).

Ганарар за публікацыю пералічваецца ў фонд ТБМ.

## На магіле Жылуновіча

Доўгімі дзесяцігоддзямі з нас спрабавалі зрабіць сляпых без памяці і розуму жывёлін. Але не атрымалася. Шмат засталося людзей, якія насуперак таталітарызму зберaглі святы агонь народнае душы.

Вось ужо тры гады запар у Магілёве на Радаўніцу ладзіцца вечарына, прысвечаная пісьменніку, грамадскаму дзеячу і шчыраму беларусу Цішку Гартнаму (Зміцеру Хведаравічу Жылуновічу). Гэты чалавек узначальваў першы беларускі ўрад у сталінскія часіны і загінуў у Магілёўскай псіхіятрычнай лякарні. Шмат часу лічылася невядомым, дзе яго пахавалі. Але знайшліся сведкі. Яны паказалі прыкладнае месца пахавання. У 1989 годзе намаганнямі магілёўскай філіі арганізацыі «Мартыралог Беларусі» ўпершыню была ўшанавана памяць пра Жылуновіча і пастаўлены памятны знак на месцы ягонага пахавання. Культурна-асветніцкая суполка беларусаў горада Магілёва «Машэка» цяпер штогод адзначае Радаўніцу на гэтым святым месцы.

**Ігар ПУШКІН, Сымон ГЛАЗШТЭЙН,**
сябры суполкі «Машэка».

*Гартаючы старыя выданні*

Так чамусьці павялося — мы часта шукаем выйсця ў маленькіх і вялікіх справах, забываючы пра мудрасць пакаленняў, горкі падчас вопыт гісторыі. А ўсё гэта ад няведання сваёй мінуўшчыны, адарванасці ад яе. Вось, скажам, такая «дробязь», як назва вуліц у Мінску. Ды не толькі ў Мінску — паўсюль на Беларусі. Чаму ж нам не прыслухацца да слоў аўтараў артыкулаў у першых мінскіх беларускіх газетах? Яны вартыя таго, каб прагучаць сёння.

Артыкул «Чарговая справа» быў надрукаваны ў «Вольнай Беларусі» ў 1918 годзе ў час нямецкай акупацыі пад крыптонімамі «Ф.О.» невядомага аўтара. Другі, «Беларускія назовы вуліц у Мінску», пабачыў свет на старонках газеты «Беларусь» ужо пры паляках. Дзякуючы Слоўніку беларускіх псеўданімаў Янкі Саламевіча, мы ведаем яго аўтара. Гэта — Рамуальд Зямкевіч, вядомы беларускі бібліёграф і публіцыст, збіральнік калекцыі рукапісаў і этнаграфічных экспанатаў.

# Беларускія назовы вуліц у Менску

Менск Беларускі — сэрца нашай бацькаўшчыны Беларусі — дагэтуль не меў і не мае назоў вуліц па-беларуску.

Усе нашыя «браты» хоць часамі прызнавалі за намі імя беларусаў, аднак сведама не лічыліся з намі і намагаліся даць выгляд нашаму месту чыста маскоўскі альбо польскі.

Цяперашнія бацькі места — магістрат — ужо вярнулі некаторыя старасвецкія назовы вуліц, за што належыцца ім шчырае дзякуй. Але апрача старасвецкіх назваў, яны парупіліся даць і новыя. Напрыклад, Захараўская вуліца названа цяпер вуліцай Адама Міцкевіча. Не маючы нічога процiў вялікага польскага паэта, мусім аднак заўважыць, што да перамен назоваў вуліц павінна быць выбрана камісія не з адных палякаў, бо Менск не польскі горад, а беларускі. Назовы вуліц толькі па-польску ясна паказваюць, хто і з якога боку паноў-палякаў намагаецца зрабіць наш горад чыста польскім. Праца гэтых паноў з усялякіх таварыстваў, як «Страж Крэсова» і іншыя, мусім цвёрда адзначаць, зусім і абсалютна дарэмная; яна шкодзіць толькі ім самім, падрываючы ў будучыне грунт пад іх нагамі.

Мы згаджаемся, што назовы вуліц, як: Васкрасенская, Вяземская, Дзяменцьеўская, Екацярынінская, Ільінская, Казанская, Каломенская, Крашчэнская, Міхайлаўская, Маскоўская, Надзеждзінская, Неўская, Нова-Серпухоўская, Пяцярбургская, Пушкінская, Сяргееўская, Серпухоўская і ім падобныя вуліцы павінны быць названы па-беларуску, бо лішне ўжо прыпамінаюць нам маскоўскі пах.

І вось прапануем назовы для вуліц гэтакія: князя Ізяслава Полацкага, доктара Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага, Льва Сапегі, Мілета Сматрыцкага, Спірыдона Собаля, Базыліна, Яна Чачота, Тамаша Зана, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Сыракомлі, Аляксандра Ельскага, Францішка Багушэвіча, Яна Неслухоўскага, Каганца, Івана Луцкевіча.

Але ніколі мы не згодзімся, каб вуліцы ў беларускім Менску мелі таблічкі толькі ў польскай мове, бо гдзе тады «роўныя» правы?

Назовы вуліц трэба адны змяніць, другія назовы перанесці, як, напрыклад, вуліцу Ракаўскую называць, як і раней — Юр'еўскай, а цяперашнюю Юр'еўскую назваць — Яна Неслухоўскага, бо на гэтай вуліцы жыў незабытны для нас беларускі паэт.

Менск Беларускі, як сэрца Беларусі, мае поўнае права на беларускія назовы і толькі на беларускія, хаця пратэставаць процiў назвы вуліцы Адама Міцкевіча, каторы ніколі ў Менску не быў і нігдзе ў сваіх творах Менску не ўспамінае,— мы не будзем, шануючы памяць гэтага вялікага песняра для ўсёй Славяншчыны.

Юры АЛЕЛЬКАВІЧ,
«Беларусь», 1919 г., № 13,
4 лістап., аўторак.
Алесь ЖЫНКІН.

## І смех і грэх

*Янусь МАЛЕЦ*

### Маналог апаратчыка

Каб бегемота — на трыбуну:
Во. раскрываў бы спраўна
рот,
І пальцы б між зубоў не
сунуў
Яму ніякі ідыёт.
А на мяне дык дэмакраты
Цяпер у зале так глядзяць,
Ажно пацеюць нос і пяты,
Як пачынаю выступаць.

Раней, бывала, колькі хочаш
Я мог з трыбуны гаварыць
І слухаў кожны аж да ночы,
І ў ладкі пляскаў — хто не
спіць.
Цяпер звычайна па-другому:
Як дзесьці трошкі што не так,
Дык кругавую абарону
Заняць павінен я, бядак.

І ноччу часам — во,
навала! —
Сасніцца шумнай залы блеф,
На жонку, як на нефармала,
Крычу спрасонку:
— БНФ!!!

### «Прафесія»

Прапала масла, цукру мала,
Даўно шкарпэтак не купіць,
І ўлада дружна закрычала:
«Пара да рынку ўжо ісці!
Каб лепей жыць, нам
міжнародны
Патрэбна вопыт пераняць,
А гэта значыць: неабходна
Цану на ўсё-на ўсё падняць.
Інакш надыдзе галадуха,
Пачне галеча данімаць
І, хоць прышый катова вуха,
Не будзе радасці чуваць».

Ну што ж, вялікія
стратэгі,—
Што ні стратэг, ды
ягамосць! —
Я запрашаю вас у чэргі,
Вас там няма, а я там —
ёсць!
У чэргах так народ вас лае:
«Яны пра рынак нам плятуць,
Бо ў іх прафесія такая:
Лаўчэй схітрыць і абмануць!»

Павел МІСЬКО

Сяброўскі шарж
і верш
Святланы МАРЧАНКІ



Ляцяць, як «Каляные лісце», гады —
Хай не будзе інакшай хады!



**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2445. Індэкс 74975.